# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

17.05.12-23.05.12 г.



**ЧАМУ МУЖЧЫНЫ**



СЯДЗЯЦЬ БЕЗ ПРАЦЫ?

СТАР. 4–5

**КУПАЛАЎСКІ Ў ЛОНДАНЕ:**

АД ПАЛІТЫКІ ДА СЮРУ



СТАР. 6-7


# АЗІЯ БЛІЖЭЙШАЯ ЗА ЕЎРОПУ

**Сустрэча двух "баяў" — казахскага і беларускага — прайшла ў "цёплай і добразычлівай атмасферы". Выглядае, што яны выпрацоўвалі тактыку адносін з трэцім "баем", які днямі афіцыйна вярнуўся ў Крэмль.**




*Калі замест "SOS!" называюць сябе стратэгічным мастом*

Нурсултан Назарбаеў пачаў свой візіт у Беларусь не з Мінска, як можна было чакаць, а з Белавежскай пушчы. Звычайна Аляксандр Лукашэнка прымае там гасцей у тым выпадку, калі трэба захаваць у сакрэце змест размоў. Афіцыйная інфармацыя пра сустрэчу ў лесе была надзвычай скупая: "абмеркавалі шырокае кола пытанняў", "агледзелі славутасці і запаведныя мясціны нацыянальнага парку". Усё.

Паназіраўшы за зубрамі, Лукашэнка і Назарбаеў перамясціліся ў сталіцу Беларусі, дзе дэманстравалі суцэльнае аднадушша. Не абышлося і без прыхаваных, але ўсё-такі шпілек у бок Масквы.

Беларусь і Казахстан маюць абсалютна ідэнтычныя погляды на Адзіную эканамічную прастору, падкрэсліў Лукашэнка. З гэтага вынікае, што з трэцім чальцом згаданага хаўрусу — Расіяй — існуюць рознагалоссі. Канечне, гэта сакрэт палішынеля, аднак можна было і не намякаць на тое, што ў АЭП памкненні адной дзяржавы супярэчаць інтарэсам дзвюх іншых.

Між іншым цалкам верагодна, што ў пушчы Лукашэнка з Назарбаевым узгаднялі, як будуць "сябраваць супраць" Пуціна, або, кажучы паліткарэктна, адстойваць агульныя інтарэсы. Гэта, дарэчы, абсалютна звычайная практыка ў саюзах, дзе адна з дзяржаў мае відавочныя перавагі ў памерах і вазе.

> **Лукашэнка і Назарбаеў збіраюцца ўдвая павялічыць аб'ём гандлю паміж сваімі дзяржавамі.**

Падобна на тое, што гэтым разам Лукашэнка з Назарбаевым дамовіліся пра ўзаемадзеянне, бо кіраўнік Беларусі быў надта шчодры на кампліменты. Ён нават прыгадаў, што менавіта прэзідэнт Казахстана дваццаць гадоў таму агучыў ідэю Адзінай эканамічнай прасторы. (Яшчэ адзін "кукіш у кішэні" для Пуціна, бо стварэнне АЭП афіцыйнай расійскай прапагандай падаецца як выключная заслуга старога новага прэзідэнта РФ.)

Натуральна, Назарбаеў таксама з усходняй далікатнасцю нахвальваў гаспадароў за чысціню і дагледжанасць беларускіх вёсак і палёў. "Пасяброўску зайздрошчу белай зайздрасцю", — казаў прэзідэнт Казахстана.

Лукашэнка і Назарбаеў збіраюцца ўдвая павялічыць аб'ём гандлю паміж сваімі дзяржавамі. Больш за тое, справа мусіць пайсці далей за двухбаковыя адносіны: паводле Лукашэнкі, Беларусь разглядае Казахстан у якасці пляцоўкі для ўмацавання сваёй эканамічнай прысутнасці ў Цэнтральнай Азіі і гатова прапанаваць сябе Казахстану як "заходнія вароты на шляху ў Еўропу".

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## СЯРЭДНІ ДАХОД БЕЛАРУСА – 2,14 МІЛЬЁНА РУБЛЁЎ

**Гэта атрыманыя заробкі, пенсіі, стыпендыі, дывідэнды па акцыях з улікам сплачаных падаткаў.**

У першым квартале 2012 года агульны аб'ём грашовых даходаў насельніцтва Беларусі склаў Br60,8 трыльёна і ў параўнанні з першым кварталам 2011-га павялічыўся ў 2 разы пры росце спажывецкіх цэн на тавары і паслугі за гэты перыяд ў 2,1 раза, паведамляе БелТА.

Такім чынам, рэальныя грашовыя даходы (грашовыя даходы за вылікам падаткаў, збораў і ўзносаў, скарэкціраваныя на індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у студзені-сакавіку бягучага года ў параўнанні са студзенем-сакавікам мінулага года знізіліся на 1,4% пры прагнозе росту на 2012 год на 3-3,5%.

Грашовыя даходы ў разліку на душу насельніцтва ў першым квартале бягучага года склалі 2 143 500 рублёў у месяц.

Паводле статыстычных даных, грашовыя даходы ў разліку на душу насельніцтва складалі 187,3 працэнта сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек, а таксама 293 працэнты бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва.

# ЦІ БУДЗЕ ЗА ШЧАСЦЕ НАРАДЖАЦЬ ДЗЯЦЕЙ У БЕЛАРУСІ?

**Дзяржава адважылася на чарговы крок па стымуляцыі нараджальнасці ў краіне, павысіўшы памер дзіцячай дапамогі. Ці дасягне яна сваёй мэты такімі захадамі, спрабавалі адказаць рэспандэнты «Тут і цяпер».**

**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА, СТАРШЫНЯ АГП:**

### «ПЫТАННЕ ДЭМАГРАФІІ — ЗА КОШТ... КІТАЙЦАЎ»

— Гэтая мера дапаможа як кашаль хваробе. Я думаю, што лепш было б зладзіць такі эксперымент сярод урадавых работнікаў ці чыноўнікаў «чырвонага дома»: хай бы яны самі паспрабавалі, жывучы на гэтыя грошы, павысіць нараджальнасць. І калі такі эксперымент атрымаецца ўдалым, то яго можна будзе прасоўваць па ўсёй Беларусі. Літаральна на днях я пакінуў у краме 500 тысяч, аднак нават не магу сказаць, за што я аддаў такія грошы. Думаю, пры тых інфляцыйных працэсах, што адбываюцца ў Беларусі, «шчаслівыя бацькі» не паспеюць дабегчы да крамы, як гэтая павышаная дапамога фактычна ператворыцца ў яшчэ меншую суму. Пакуль што я бачу, што пытанне дэмаграфіі хочуць вырашаць стратэгічна за кошт прыезду ў якасці таннай рабочай сілы кітайцаў, кіргізаў ці таджыкаў.

**СВЯТЛАНА, МАЛАДАЯ МАЦІ (ГОМЕЛЬ):**

### «ВЫБІРАЮЦЬ ПАДМАСКОЎНУЮ БУДОЎЛЮ, А НЕ ДЗЯЦЕЙ»

— Атмасфера, што пануе сёння ў краіне, ніяк не спрыяе жаданню нараджаць дзяцей. Якія тут дзеці, калі мільёны беларусаў едуць на заробкі з радзімы, хто на Захад, хто на Усход? Колькі ў нас разарваных сем'яў! Пра якіх дзяцей будзе думаць чалавек, які сёння, ажаніўшыся, вымушаны ехаць на нейкую падмаскоўную будоўлю і працаваць там два ці тры гады?! У нас ужо фактычна мільён няпоўных сем'яў.

**ТАЦЦЯНА КАРПОВІЧ, ШМАТДЗЕТНАЯ МАЦІ:**

### «СТАЎКА НА МАЛАДЫХ МАЦІ, ЯКІЯ ВАРАЦЬ БОРШЧ»

— Я ўвогуле не ставіла б так пытанне — «за шчасце нараджаць». Я лічу, што нараджэнне дзіцяці для жанчыны — гэта найгалоўнейшая падзея ў жыцці. І калі дзіця чаканае — гэта заўсёды шчасце. Я б не прывязвала нараджэнне дзіцяці да грошай, кар'еры і жыццёвых планаў. Гэта непараўнальныя рэчы. І калі б такімі катэгорыямі думалі нашы бацькі, народжаныя ў пасляваенных жабрацкіх вёсках, то нас бы ўвогуле не было. Што, у тыя галодныя саракавыя яны нараджалі па сем-восем дзяцей «за шчасце»? Калі Бог дае дзіця, ён дае і на дзіця. Калі Бог дае магчымасць нарадзіць — гэта ўжо само па сабе вялікае шчасце. Асабліва калі ведаеш, колькі людзей не маюць магчымасці мець дзяцей і колькі хворых дзяцей нараджаецца. І колькі б яны ні павышалі дапамогу, гэта не выратуе дэмаграфічную сітуацыю. Стаўка не робіцца ні на культуру, ні на добрую адукацыю, асабліва адукацыю мацярэй. Наверсе зацікаўлены ў тым, каб маладыя маці сядзелі і варылі боршч, а мужыкі працавалі на дзяржаву.

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА, ПАЛІТЫК, МОВАЗНАЎЦА, БАЦЬКА ТРАІХ ДЗЯЦЕЙ:**

### «А ХТО КАМПЕНСУЕ МАРАЛЬНУЮ ПРЫГНЕЧАНАСЦЬ?»

— Я думаю, што людзі, якія плануюць жыццё і думаюць пра дабрабыт і перспектывы сваіх будучых дзяцей, звяртаюць увагу і на матэрыяльныя перспектывы. І ў розных краінах, у тым ліку і ў заможных, існуюць розныя дапамогі для ўсіх тыпаў сем'яў. І любыя крокі ў гэтым кірунку трэба было б вітаць. Іншая рэч, што ніякім чынам гэтыя дадаткі, выражаныя ў валютным каэфіцыенце, не кампенсуюць агульнага збяднення, фактычна трохразовага, якое перажылі беларусы ў мінулым годзе. Яны ніякім чынам не кампенсуюць атмасферу маральнай прыгнечанасці, бесперспектыўнасці ў адносінах да прафесійнага росту, магчымасці зарабіць сумленнай працай, пачаць сваю ўласную справу і гэтак далей.



*Дзіцяткам і іх бацькам патрэбны не толькі грошы*

**ЖАННА СТАНКЕВІЧ, НАСТАЎНІЦА:**

### «НЕ ХАПАЕ ВЕДАННЯ ПСІХАЛОГІІ СЯМЕЙНАГА ВЫХАВАННЯ»

— Не кожная жанчына павінна мець шмат дзяцей ці ўвогуле нараджаць іх. Гэта своеасаблівы талент, які даецца не ўсім. Гэта адказнасць за чалавека, яго станаўленне. Улады спрабуюць падвесці матэрыяльную базу пад жаданне нараджаць дзяцей, але гэта не зможа павялічыць любоў да дзяцей, без якой пагоня за паказчыкамі не мае сэнсу. Не хапае выкладання псіхалогіі сямейнага выхавання ў школах, паглыбленага вывучэння гісторыі краіны і роднай мовы, бо толькі гэта можа даць сувязь са сваімі каранямі, з традыцыямі пакаленняў і, як вынік, любоў да іх.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДА ВЕДАМА**

**Законапраект аб змяненні механізма разліку дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3-х гадоў унесены ў Савет Міністраў. Пра гэта паведаміла журналістам намеснік начальніка ўпраўлення народанасельніцтва, гендарнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Марына Арцёменка, адказваючы на пытанне карэспандэнта БелТА.**

**Нацыянальнай праграмай дэмаграфічнай бяспекі Рэспублікі Беларусь на 2011—2015 гады прадугледжана падрыхтоўка ў 2012 годзе нарматыўнага прававога акта, які мае на мэце ўвязаць памер дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да 3-х гадоў з сярэдняй заработнай платай па краіне і дыферэнцыраваць яго ў залежнасці ад чарговасці нараджэння дзяцей. Так, памер дзяржаўнай дзіцячага дапамогі на першага дзіцяці плануецца на ўзроўні да 35% сярэднямесячнай заработнай платы па рэспубліцы, на другога і наступных дзяцей — да 40%.**

# АЗІЯ БЛІЖЭЙШАЯ ЗА ЕЎРОПУ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Добра, што хоць не ў якасці падваротні!

Зрэшты, апошняя прапанова — не эксклюзіўная. Ужо каля 10 гадоў Лукашэнка заклікае Пекін выкарыстоўваць Беларусь у якасці кітайскага плацдарма ў Еўропе. Аднак пакуль што гэтая ідэя не надта цікавіць кіраўніцтва КНР, таму заляжалы тавар спрабуюць прадаць Казахстану.

Наогул падчас візіту Назарбаева ў Мінск гучала безліч агульных слоў. Як сведчыць практыка, заявы такога кшталту рэдка ператвараюцца ў канкрэтныя справы. Па сутнасці, мае месца імітацыя бурнай дзейнасці з мінімальным вынікам.

Праўда, ёсць адзін кірунак, супрацоўніцтва ў якім паміж Лукашэнкам і Назарбаевым будзе шчырым і паслядоўным. Кіраўнікі Беларусі і Казахстана падпісалі сумесную заяву супраць "выкарыстання праваабарончай тэматыкі ў мэтах палітычнага націску". Бакі збіраюцца падтрымліваць адзін аднаго па гэтай тэме ў міжнародных арганізацыях, якія часта маюць прэтэнзіі да палітычных практык, на якіх грунтуецца ўлада як Лукашэнкі, так і Назарбаева.

Карацей кажучы, Азія для Лукашэнкі значна бліжэйшая, чым Еўропа.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ЦІ ГАТОВЫ НАШЫ ГАРАДЫ ДА АДПАЧЫНКУ

**Вось-вось грымнуць канікулы і пачнуцца водпускі ў дарослых. Не ўсе, канечне, змогуць паехаць на мора — многія, як і кожны год, застануцца летам у сваіх гарадах. Мы вырашылі даведацца на прыкладзе Магілёўскага рэгіёна, ці гатовы гарады прапанаваць дзецям і дарослым цікавы, карысны і недарагі адпачынак.**



*Вакацыі на Магілёўшчыне пакуль праўдзіць асабліва няма дзе*

Вось што паведамілі нашы крыніцы з...

**...КЛІМАВІЧАЎ**

Ужо другі год у Клімавіцкім раёне дзейнічае мэтавая інавацыйная пляцоўка, арганізаваная для абмену перадавым досведам па рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Яе існаванне дазваляе думаць і спадзявацца, што клімавіцкія юнакі і дзяўчаты знаходзяцца ў нейкіх лепшых умовах у параўнанні з равеснікамі з іншых рэгіёнаў. Ва ўсякім разе, літаральна на днях мясцовы ідэолаг з гонарам паведаміла абласной газеце, што "ў нас наладжана цікавая работа з моладдзю, ёсць чым падзяліцца з калегамі". Але рэчаіснасць паказвае, што для раённага аддзела ідэалогіі работа з моладдзю азначае стварэнне маладзёжных добраахвотных дружын, заахвочванне маладых спецыялістаў, патрыятычнае выхаванне школьнікаў і студэнтаў. Менавіта такімі дасягненнямі могуць пахваліцца арганізатары інавацыйнай пляцоўкі. У выніку, моладзі застаецца самой вырашаць праблему правядзення вольнага часу. Варыянтаў зусім няшмат: дыскатэка ў цэнтры культуры, наведванне бара і кафэ, прагулкі ў гарадскім парку. Аматары спорту маюць магчымасць займацца ў секцыях ці хадзіць у басейн. Месцаў для адпачынку амаль што няма, таму падлеткі збіраюцца адзін у аднаго на кватэрах або ладзяць гулянкі на прыродзе за горадам. Не дзіўна, што пераважная большасць маладых людзей імкнецца назаўсёды з'ехаць з Клімавічаў пры першым зручным выпадку.

**...КРЫЧАВА**

Яшчэ ў савецкія часы з-за гумавай вытворчасці і цэментнага прадпрыемства горад меў "славу" аднаго з самых экалагічна нездаровых. Аднак жа наступнае, паслясавецкае начальства, нямала пастаралася для выпраўлення гэтай сітуацыі. І выправіла, праўда, паралельна амаль згубіўшы названыя вышэй вытворчасці. Магчымасці для работы ў трэцім па велічыне горадзе рэгіёна такім чынам надта звузіліся, але людзі засталіся. Больш за тое, яны жэняцца, нараджаюць дзяцей. Малыя растуць хутка: вось ужо і пабеглі да каруселькі, арэляў, самаходных дзіцячых аўто... Не, на жаль, гэта толькі фантазія. Дзеці мо і хацелі б пабегчы, але няма да чаго. Нядаўна, дзякуючы суботніку, у парку быў адноўлены фантан, які іграе цяпер на сонцы рознакаляровымі струменямі вады. А навокал лепш і не глядзець — недакуркі, пустыя бутэлькі, пластыкавы і папяровы посуд, рознае смецце. І так ва ўсім парку. Да аднаўлення "Казачнай паляны" ў камунальнай службы горада, як кажуць, рукі не дайшлі. На паляне гэтай дзяцей некалі вабілі да сябе драўляныя скульптуры казачных і літаратурных персанажаў і драўляны домік. З цягам часу ўсё гэта разбурылася і пагніло. Побач выраслі два вялікія мікрараёны, а з дзецьмі пагуляць бацькам і няма дзе. Існуючая тут нейкая пляцоўка з кручастымі прыстасаваннямі для гульняў, што выраблены з труб, праблему не вырашае. А ржавыя атракцыёны ў так званым гарадскім дзіцячым парку даўно маюць неэстэтычны выгляд і, здаецца, не адпавядаюць нормам эксплуатацыі.

**...МАГІЛЁВА**

У абласным цэнтры праблемы з наяўнасцю месцаў адпачынку для дзяцей і моладзі, на першы погляд, няма. Хаця многія адкрыта шкадуюць аб страчаным колішнім парку адпачынку імя Горкага. Цяпер тут стаіць капліца, па памерах больш падобная на паўнавартасную царкву і ўзведзеная ў гонар рускага цара Мікалая ІІ, што перад рэвалюцыяй меў у Магілёве стаўку як галоўны камандуючы. За час будаўніцтва капліцы-царквы (добрыя 5 гадоў) парк практычна знік. Ну, нейкія дрэвы яшчэ захаваліся, але ўсе атракцыёны закрыліся, і цяпер людзі прыходзяць сюды альбо ў царкву, альбо з цікаўнасці — не ўсе магілёўцы яшчэ вераць, што ў парку сапраўды адбыліся такія перамены. Такім чынам, на правым беразе Дняпра, дзе раскінуўся цэнтр горада, месца для адпачынку фактычна не засталося.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЧАМУ МУЖЧЫНЫ СЯДЗЯЦЬ БЕЗ

Упершыню ў Беларусі беспрацоўных жанчын стала менш, чым беспрацоўных мужчын. Такой факт адзначылі спецыялісты ўпраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.




*Хутка могуць з'явіцца і дояры*

Чаму мужчыны не працаўладкоўваюцца, а жанчыны вымушаны працаваць на некалькіх работах? Адказ на гэтае пытанне ведае **старшыня грамадскай арганізацыі "Беларуская жаночая ліга" кандыдат гістарычных навук Ніна Стужынская**.

— А можа гэтыя беспрацоўныя мужчыны, аб якіх сведчыць статыстыка, знаходзяцца не ў Беларусі? — адразу перапытала Ніна Іванаўна. — Мо яны куды выехалі на заробкі, напрыклад, у тую ж Расію?

**— Гаворка, хутчэй за ўсё, ідзе пра тых, хто афіцыйна зарэгістраваны як беспрацоўны...**

— Калі так, то мне здаецца, што тут вельмі простае тлумачэнне: жанчыны прывыклі працаваць нават за невялікае ўзнагароджанне, таму што на іх дом, дзеці, а вось мужчыны на маленькую зарплату нязгодныя.

Беларускія жанчыны больш адукаваныя, чым мужчыны. Магчыма, у нашай эканоміцы сталі запатрабаваны якраз людзі з добрым узроўнем адукацыі. Але самае асноўнае, жанчыны для таго, каб зарабіць, згаджаюцца на любую працу, не капрызяць. Могуць і на дзвюх, і на трох работах працаваць. Днём, дапусцім, займацца высокаінтэлектуальнай працай, а ўвечары мыць падлогу ў пад'ездах. Такія прыклады ёсць сярод маіх знаёмых.

**— Тады чаму яшчэ пару месяцаў назад дамы былі ў лідарах па беспрацоўі?**

— Сітуацыя пагоршылася, зарплаты зменшыліся. Трэба неяк зводзіць канцы з канцамі. А што тычыцца сферы, дзе могуць быць запатрабаваны людзі з высокім узроўнем адукацыі (напрыклад, у тых жа ВНУ), то цяпер і там далёка не самая лепшая сітуацыя. Жабрацкая аплата высокаінтэлектуальнай працы.

**— Ведаеце, на днях я зайшла на сайт Палескага ўніверсітэта. Там на галоўнай старонцы вісіць аб'ява аб тым, якіх спецыялістаў універсітэт гатоў прыняць на працу. І столькі вакансій свабодных! Патрабуюцца ў асноўным старшыя выкладчыкі — больш за 30 прапаноў. Я яшчэ падумала: мабыць, не хочуць ехаць у Пінск...**

— Гэты фактар таксама адыгрывае не апошнюю ролю. Але яшчэ, думаю, справа ў заробку. Нядаўна сустракалася са сваімі калегамі-гісторыкамі, і мяне ўразіла, мякка кажучы, занадта сціплая зарплата дацэнтаў. Гэта пры тым, што людзі ацэнены супольнасцю, маюць імя, публікацыі. І атрымліваюць капейкі!.. Я сама хацела б выкладаць, але за такія грошы, вядома, не пайду. Я магу параўноўваць з савецкім часам: стаўленне да выкладчыкаў ВНУ тады было значна больш паважлівым. А сёння, я ведаю, некаторыя выкладчыкі, асабліва тыя, хто маладзейшы, з'язджаюць — хто ў Расію, хто ў Польшчу.

**— Днямі чытала выказванне кіраўніка аднаго з кадравых агенцтваў: маўляў, вакансій хапае. Тады чаму гэтае прапанаванне не мае попыту? Уся справа ў зарплаце?**

— Ну а які сэнс, як я кажу, выходзіць з дому? На статуснай працы існуе адпаведны дрэс-код, і спадніца на жанчыне, прабачце, 20-гадовай даўніны адразу кінецца ў вочы. Скажуць: жабрачка прыйшла. Атрымліваючы сярэднюю выкладчыцкую зарплату, я толькі пакрыю тыя выдаткі, што ўзнікнуць, калі пачну кожны дзень ездзіць на працу. Гэта вопратка, ежа на працягу дня, транспарт, пральныя. Я ўжо не кажу пра аўтамабілі і паліва…

У свой час, дарэчы, я думала, што адна такая кандыдат навук, дацэнт, у якой значная частка жыцця праходзіць на агародзе: кветачкі, агуркі, памідорчыкі... Аказалася, што такіх больш чым дастаткова. Проста людзі падлічылі, што пара кашуль і шортаў абыдзецца ім значна танней за прыстойны касцюм, які трэба будзе купіць для таго, каб прыйсці ў аўдыторыю да студэнтаў. А калі пенсію атрымліваеш, то худабедна канцы з канцамі можна зводзіць — на камунальныя плацяжы хопіць, а агарод не дасць памерці з голаду.

Калі гаварыць пра мужчын, то не думаю, што яны зусім не зарабляюць: проста не афішуюць гэтыя заробкі або тыя настолькі малыя, што не цікавяць дзяржаву. Адны з'ехалі ў суседнія краіны, а лічацца яны тут як беспрацоўныя ці не — хто ведае? Іншыя працуюць ціхай сапай. Ценявая эканоміка ўсё роўна вялікая — шмат народу працуе і не

## ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

**Беспрацоўных жанчын, што зарэгістраваны ў дзяржаўнай службе занятасці, на 1 мая 2012 года ў Беларусі налічвалася 15,1 тыс. чалавек (агульная колькасць беспрацоўных — 30,6 тыс. чалавек).**

**Як паведамляе belta.by са спасылкай на спецыялістаў, на пачатку гэтага года колькасць жанчын, якія маюць статус беспрацоўных, павялічвалася, хоць і нязначна (за студзень — на 0,6 тыс. чалавек, за люты — на 0,1 тыс.), а вось за сакавік іх ужо стала менш на 0,3 тыс.; за красавік колькасць беспрацоўных жанчын скарацілася ў цэлым па рэспубліцы на 0,5 тыс. чалавек.**

**Дарэчы, у вясенне-летні перыяд колькасць беспрацоўных (у тым ліку жанчын), як правіла, памяншаецца. Гэта абумоўлена сезонным ростам попыту наймальнікаў на рабочую сілу.**

**У рэгіёнах на 1 мая гэтага года больш за ўсё беспрацоўных жанчын зарэгістравана ў Гомельскай вобласці (3,2 тыс.), менш за ўсё — у Мінску (1,3 тыс. чалавек).**

**Важным з'яўляецца зніжэнне не толькі колькасці, але і ўдзельнай вагі жанчын у структуры беспрацоўя: за сакавік — на 0,2 працэнтных пункта, за красавік — ужо на 1 працэнтны пункт. Зараз гэты паказчык складае 49,3% (год назад ён быў роўны 50,8%).**

# ПРАЦЫ?



*Мужыкі бегаюць за працай, а не яна за імі*

плаціць падаткі. Напрыклад, зараз набірае папулярнасць аказанне паслуг дачнікам: дзе траву скасіць, дзе поле ўзараць. І грошы адразу плацяць...

Але ў штодзённай практыцы я бачу, што нашы жанчыны рвуць жылы. Многія і дом утрымліваюць, і дзве работы цягнуць. Наша грамадства трымаецца выключна на жанчынах, хоць у міністрах у нас ходзяць мужчыны.

**МАРЫНА МІТ**

**УЛАСНЫ ДОСВЕД**

## У ГАРАЖЫ ЗАРАБЛЮ БОЛЬШ, ЧЫМ НА ДЗЯРЖСЛУЖБЕ»

**Мінчанін Мікалай П. афіцыйна нідзе не працуе, але ў яго заўсёды ёсць грошы на бензін, аплату камунальных паслуг і вячэру ў піцэрыі. Амаль кожны дзень да Мікалая ў гараж выстройваецца чарга — ён выдатна разбіраецца ў аўтамабілях.**

*«Я працаваў на дзяржпрадпрыемстве ў сферы бытавых паслуг, — распавядае Мікалай. — І ў адзін цудоўны дзень зразумеў, што не хачу па панядзелках да 8 раніцы прыязджаць на нарады, пісаць нікому не патрэбныя справаздачы. Зараз я сам сабе начальнік і, шчыра кажучы, часам за пару дзён работы ў гаражы магу атрымаць свой ранейшы месячны аклад. Я бачу канкрэтныя вынікі сваёй працы, ды і людзі кажуць, што ім прыемней аддзячыць мне асабіста, чым пераплачваць у нейкім аўтасэрвісе».*

# МІНІСТР ФІНАНСАЎ РАІЦЬ ЗАБЫЦЦА ПРА КРЫЗІС

Міністр фінансаў Андрэй Харкавец лічыць сярэдні заробак 500 долараў рэальным, пры гэтым прычынай крызісу называе жыццё не па сродках.

Еўрарадыё задало свае пытанні міністру фінансаў Андрэю Харкаўцу на прамой тэлефоннай лініі.

**– Абяцаны сярэдні заробак у 500 долараў... Ці адпавядае гэтая лічба рэальна заробленаму ў эканоміцы?**

– Зaробленасць ці незаробленасць гэтых грошай будзе вызначацца тым, як спрацуе ў цэлым эканоміка. Калі прадукцыйнасць працы ў рэальным сектары эканомікі дазваляе давесці ўзровень заробку да эквівалентнага 500 доларам, то гэта зароблены, а калі прадпрыемствы павышаюць заробкі, але не нарошчваюць пры гэтым эфектыўнасць сваёй працы, безумоўна, гэта грошы не зароблены!

**– Але для беларускай эканомікі ў цэлым такая лічба па сілах?**

– У гэтай лічбе няма абсалютна нічога страшнага. Не ставіцца ж мэтай 500 долараў перш за ўсё. Ставіцца мэта — эфектыўная эканоміка, эфектыўная вытворчасць, якая б дазваляла плаціць больш высокі заробак. 500 долараў — гэта не тая велічыня, якая з'яўляецца загранічнай для эканомікі нашай краіны. Патэнцыял тут агромністы.

Нечакана на наступнае пытанне пра эканамічныя праблемы міністр фінансаў просіць... пачаць забываць пра крызіс! А яго асноўнай прычынай называе жыццё не па сродках. У яго словах гэта ніяк не супярэчыць планам давесці сярэдні заробак да 500 долараў.

**– У чым міністэрства фінансаў бачыць асноўную прычыну мінулагодняга крызісу?**

– Я б увогуле ўжо забываў пра тое, пра што вы пытаецеся. Сёння трэба акцэнтаваць увагу на тым, як не дапусціць той сітуацыі, якая прывяла да эканамічнага, фінансавага, банкаўскага крызісу.

**– І што да яго прывяло?**

– На мой погляд, тут некалькі прычын. Першая — мы дастаткова неапраўдана захапіліся стымуляваннем унутранага попыту ў краіне. Мы шмат будавалі, шмат укладвалі ў інфраструктурныя праекты ў краіне, давалі дастаткова танныя рэсурсы нашым прадпрыемствам, але эфектыўнасць іх выкарыстання не адказвала тым задачам, пад якія яны выдаваліся.

Напэўна, тое, што мы шмат выдаткоўвалі ўнутры краіны, прывяло да таго, што краіна не магла зарабляць на знешніх рынках дастаткова валютных сродкаў, каб пакрыць гэтыя выдаткі. Агульнымі словамі можна сказаць, што гэта і ёсць жыццё не па сродках. Таму мы павінны быць больш стрыманымі. Напэўна, гэта самая галоўная прычына.

Сёння мы сталі больш стрыманымі: і ў крэдытаванні — грошы сталі даражэйшымі, стрыманыя і ў бюджэтных выдатках — фармуем бюджэт без дэфіцыту. І калі гэтая палітыка будзе захаваная ў гэтым і наступным годзе, то, я думаю, мы хутка забудзем пра тыя няўдачы, якія напаткалі эканоміку нашай краіны. І не вернемся больш да мінулай сітуацыі.

**НАСТА МАНЦЭВІЧ**

# ЗАКУПІЦЬ АЛЕЙ У САКАВІКУ

Еўрарадыё падлічыла, ці тое, што скуплялі беларусы, падаражала больш за ўсё, і колькі атрымалася зэканоміць на цукры ды алеі.

24 траўня ў краіне адбылася першая афіцыйная дэвальвацыя. Але яшчэ да яе беларусы пачалі змятаць з крамаў розныя прадукты. Пераважна — цукар ды алей.

*"Усё, што паступае на прылаўкі, людзі проста змятаюць. Меры мы прымалі, і сёння меры прымаем. Вагоны ўначы адпраўленыя з цукровых заводаў. На працягу 3-4 дзён мы павінны пагасіць гэты ажыятажны попыт"*, — скардзіліся ва ўпраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкама.

Але ці тое, што скуплялі, падаражала больш за ўсё?

Сапраўды, з усіх прадуктаў харчавання больш за ўсё падаражаў алей! Такія лічбы дае і Белстат. За алеем ідзе рыба. На жаль, назапашваць рыбу — не вельмі добрая ідэя... Але можна было купляць і рыбныя кансервы, яны таксама добра падаражалі. Выйгралі і тыя, хто закупіўся алкаголем ды цыгарэтамі...

**Белстат:** "Рыба — 265%, кансервы рыбныя — 266%, алей — 270%, цукар — 235%, кандытарскія вырабы — 244%, гарбата — 248%, садавіна — 251%, алкаголь — 225%, тытунёвыя вырабы — 228%", — індэксы цэнаў у лістападзе да снежня 2010 года.

Да падаражання алей каштаваў па 7 тысяч за літр. Цяпер — больш за 20 тысяч... Купіўшы 10 літраў алею, можна было зэканоміць ажно 140 тысяч! А набыўшы тры дзясяткі літраў — ажно 420! Ужо нямала...

Цукар сёння каштуе 7 тысяч. Яшчэ ў студзені кілаграм цукру каштаваў амаль тры тысячы. Купіўшы ўсяго 10 кілаграмаў цукру, вы б зэканомілі... каля 40 тысяч! Некаторыя найбольш спрытныя закупляліся дзясяткамі(!) кілаграмаў — 120 тысяч эканоміі за тры дзесяткі.

Хлеб падаражаў усяго ў 1,5 разы, амаль так жа выраслі цэны на малако. А вось мяса сапраўды ў ліку тых прадуктаў, што падаражалі найбольш, — цэны за год выраслі ў 2,5 разы.

**НАСТА МАНЦЭВІЧ**

# КУПАЛАЎСКІ ТЭАТР У ЛОНДАНЕ: АД ПАЛІТЫКІ ДА СЮРУ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ўпершыню выступіў на туманным Альбіёне. 10 траўня купалаўцы прадставілі спектакль "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" на сцэне лонданскага тэатра "Блумсберы".**



Візіт найстарэйшай тэатральнай трупы Беларусі ў Вялікабрытанію адбываўся ў кантэксце моцнага палітычнага супрацьстаяння. Карэспандэнт "Тут і цяпер" пабываў на беларускай імпрэзе.

## АДКАЗ ЧЭМБЕРЛЕНУ?

Імаверна, што за прыезд Купалаўскага тэатра ў брытанскую сталіцу лонданцы мусяць быць удзячны іншаму беларускаму тэатру — Свабоднаму. Яшчэ ўвосень дэ-факта забаронены на радзіме Беларускі свабодны тэатр (заснавальнікі — Наталля Каляда і Мікалай Халезін) атрымаў запрашэнне ўзяць удзел у сусветным Шэкспіраўскім фестывалі-2012 у легендарным лонданскім тэатры "Глобус". Арганізатары фэсту паведамілі, што да іх звярнуўся пасол Беларусі ў Вялікабрытаніі Аляксандр Міхневіч, які заявіў, што замест Свабоднага тэатра прадстаўляць краіну на сусветным тэатральным форуме будзе дзяржаўны тэатр. Брытанцы здзівіліся і, натуральна, праігнаравалі патрабаванне дыпламата. Аднак у Мінску, здаецца, прыдумалі свой "адказ Чэмберлену".

Дыпмісія Беларусі ў Лондане разам з Міністэрствам культуры ініцыіравала прыезд у Лондан Купалаўскага тэатра з пастаноўкай Мікалая Пінігіна "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл". Спектакль пастаўлены паводле трох п'ес княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл — заснавальніцы прафесійнага тэатра на Беларусі. "Нясвіжская арлекінада" — гэта рэканструкцыя святочнага вечара ў Нясвіжскім замку. Спектакль складаецца з балета "Дасціпнае каханне", оперы "Выкраданне Еўропы" і камедыі "Распуснікі ў пастцы".

Прывоз вялікай тэатральнай трупы (толькі на сцэне з'явіліся каля 30 чалавек) і габарытных дэкарацый вымагаў значнай сумы. Паводле нашай інфармацыі, амбасадар Міхневіч нават звярнуўся да прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Лондане з просьбай дапамагчы прафінансаваць візіт. Апроч Мінкультуры і "Белавія" спонсарамі мерапрыемства выступілі брытанскія кампаніі, што цесна супрацоўнічаюць з уладамі Беларусі. Сярод іх: High Life London Ltd, Fintec (UK) Ltd (буйны дыстрыб'ютар калійных удабрэнняў у краіны Паўднёва-Усходняй Азіі) і Савет дзелавога супрацоўніцтва "Беларусь-ЕС" (утвораны Беларускай калійнай кампаніяй, кампаніямі "Санта-Імпэкс-Брэст", згаданай Fintec і асноўным дылерам Беларускага металургічнага завода Stemcor).

## ПІЯР "ДЛЯ ЎНУТРАННАГА КАРЫСТАННЯ"

Характэрна, што імпрэза, прэзентаваная як "найяскравейшая культурная і дабрачынная падзея года" і прымеркаваная да 20-годдзя беларуска-брытанскіх дыпламатычных стасункаў, найбольш інтэнсіўна рэкламавалася афіцыйнымі СМІ ў Беларусі. У Брытаніі яе анансавала хіба што рускамоўная газета "Англия". Запрашэнні на мерапрыемства распаўсюджвала амбасада Беларусі, і трапіць туды, як падаецца, маглі ўсе жадаючыя.

> "Брытанцы здзівіліся і, натуральна, праігнаравалі патрабаванне дыпламата. Аднак у Мінску, здаецца, прыдумалі свой "адказ Чэмберлену".

Спектакль адбыўся на сцэне лонданскага тэатра "Блумсберы" (Bloomsbury Theatre). Гэтая тэатральная зала на паўтысячы месцаў уваходзіць у структуру Універсітэцкага каледжа Лондана і не адносіцца да ліку топавых у брытанскай сталіцы.

У "беларускі вечар" перад уваходам у тэатр гледачоў сустракаў пікет Міжнароднага камітэта за свабоду артыстаў з улёткамі "Сардэчна запрашаем у Беларусь, дзе наведванне тэатра можа быць злачынствам". Адчувалася нябачная прысутнасць Свабоднага тэатра і грамадзянскай кампаніі "Free Belarus Now", што асацыіруецца з ім. Раней арт-дырэктар Свабоднага тэатра Мікалай Халезін назваў візіт дзяржаўнага беларускага тэатра прапагандысцкай акцыяй, адзначыўшы, што рэжым Лукашэнкі прымушае купалаўцаў "удзельнічаць у агітацыйных гульнях".

Дарэчы, адміністрацыя "Блумсберы" паспяшалася адмежавацца ад супрацы з "беларускім рэжымам", паведаміўшы, што прадаставіла памяшканне ў арэнду для "дабрачыннага выступу беларускаму тэатру імя Янкі Купалы з мэтай прасоўвання культурнай спадчыны Беларусі па просьбе беларускай амбасады".

## БЕЗ ПАЛІТЫКІ

Зала на больш чым 500 месцаў была поўная беларусаў розных масцей і замежнікаў.

Амбасадар Міхневіч прывітаў публіку па-беларуску і па-ангельску. У англамоўнай прамове ён распавёў, што яшчэ з часу ўручэння каралеве Елізавеце II даверчых грамат марыў пазнаёміць брытанскае грамадства з беларускай культурнай спадчынай.

Варта адзначыць, што арганізатары зрабілі ўсё магчымае, каб мерапрыемства мела апалітычны характар. Імя Лукашэнкі прагучала са сцэны толькі двойчы — падчас уручэння ў антракце ордэна Францыска Скарыны брытанскай заснавальніцы дабрачыннага чарнобыльскага фонду. Затое падчас інтэрактыўнай часткі дзеі з залы некалькі разоў даносіліся выгукі "палітвязні", "апазіцыя", а напрыканцы прадстаўлення — і "Жыве Беларусь!".

Арганізатары падрыхтавалі для ўсіх наведвальнікаў спектакля густоўныя двухмоўныя праграмкі. Кожны жадаючы мог атрымаць і аўдыёнавушнік, у якім паралельна гучаў пераклад дзеі з беларускай на ангельскую. Аднак састарэлая апаратура ўніверсітэцкага тэатра разам з адмысловым тэмпам спектакля спрычыніліся да таго, што замежнікі слаба разумелі сэнс дыялогаў на сцэне. Агулам рэакцыя залы на сцэну была адэкватнай, але, падалося, больш прыязна-удзячнай, чым захопленай.

## "ПОЎНЫ СЮР"

Ці ўдалося купалаўцам данесці культурнае багацце Беларусі да шматнацыянальнай лонданскай публікі?

"У "Блумсберы" я пабачыў поўны сюррэалізм, — распавёў "Тут і цяпер" пасля заканчэння спектакля культуролаг Сяргей Стасевіч. — Манекены ў беларускіх строях у фае, мабыць, мусілі рэпрэзентаваць Беларусь сялянскую. Амбасадар уручаў ордэн Скарыны паміж дзеямі і ў дадатак казаў пра слаўны Нясвіж з яго Радзівіламі і бясслаўнай падробкай пад іх палац, якую нядаўна збудавалі нашчадкі іх халопаў. На лонданскай сцэне выступаў панскі прыгонны тэатр з Беларусі з адпаведным рэпертуарам — дбайна перакладзенай з пальшчызны пані Уршулі Радзівілавай і выдадзенай за беларускую аўтэнтыку фрывольнай операй-балетам 18 ст. Быў яшчэ успамін пра 9 Мая…".

Па словах Стасевіча, усё гэта не выбудоўвалася ў лагічную сувязь і не магло рэпрэзентаваць Беларусь і нашу культуру замежнікам. "Пастаноўка акцэнтуе ўвагу на тым, што Беларусь некалі належала да агульнаеўрапейскага культурнага кантэксту. Толькі цяпер, на жаль, не належыць, а вось так сабе пхнецца, нібы чорны бык з крывавымі вачыма, у нетрах якога сядзіць бажок са спрытам і фантазіяй Юпітэра (персанаж часткі спектакля "Выкраданне Еўропы". — ТіЦ)", — адзначыў культуролаг.

Якой бы ні была матывацыя ўлад, ідэя прывезці ў Лондан Купалаўскі тэатр была вельмі ўдалай. Аднак для таго, каб рэпрэзентаваць культуру малавядомай еўрапейцам краіны з іміджам "апошняй дыктатуры Еўропы", трэба мэтанакіравана працаваць гадамі. Пакуль жа прадстаўнікі пасольства суверэннай Беларусі ўпарта працягваюць вымаўляць азначэнне Belarusian ("беларусіан" — "беларускі") на стары савецкі капыл — "беларашн".

Тэатральныя дні Беларусі ў Лондане працягнуцца да 18 траўня. Беларускі свабодны тэатр двойчы прадставіць на падмостках "Глобуса" "Караля Ліра" па-беларуску.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**

# 9 САКРЭТАЎ ПОСПЕХУ АД АЛЬБЕРТА ЭЙНШТЭЙНА



*Эйнштэйн быў геніям, чаго раіць і нам*

### 1) ТРЫМАЙЦЕ ВАШ РОЗУМ АДКРЫТЫМ

*«Адзінае, што перашкаджае маёй далейшай вучобе — гэта мая адукацыя»*

Часам, для таго, каб працягваць паглынаць новыя веды і рухацца наперад, трэба нарэшце пакінуць багаж са свайго мінулага. Нейкія веды застаюцца каштоўнымі, а некаторыя ўжо даўно састарэлі, але мы, як і раней, за іх чапляемся. Менавіта яны і перашкаджаюць нам набываць новыя навыкі. Свет не стаіць на месцы. Калі б людзі не ўмелі пазбаўляцца ад такога багажу, мы б, як і раней, лічылі, што Зямля плоская і трымаецца на трох кітах і чарапасе.

### 2) БУДЗЬЦЕ ЦІКАЎНЫМІ

*«У мяне няма ніякіх асаблівых талентаў. Я проста шалёна цікаўны»*

Некаторыя людзі, перарослы свой дзіцячы век, лічаць, што няветліва задаваць шмат пытанняў. А некаторым удаецца захаваць гэта каштоўнае спалучэнне цікаўнасці і дзіцячай непасрэднасці на працягу ўсяго жыцця. Так, некаторыя мудрыя людзі любяць казаць, што цікавасць забіла котку. Але некаторым коткам яна выратавала жыццё.

### 3) РАДУЙЦЕСЯ ПАМЫЛКАМ

*«Той, хто ніколі не памыляўся, ніколі не спрабаваў нічога новага»*

Ісціна гэтая старая, як свет — на памылках вучацца. Часцей за ўсё на сваіх, вельмі рэдка — на чужых. Пры ўсёй сваёй непрыемнасці, памылкі дапамагаюць нам пазбегнуць падобных сітуацый у будучыні і даюць нам неабходны досвед.

### 4) ЗМЯНІЦЕ СВАЁ СТАЎЛЕННЕ, І ВЫ ЗМЕНІЦЕ СВАЁ ЖЫЦЦЁ

*«Мы не можам вырашыць праблемы, выкарыстоўваючы той жа тып мыслення, які мы выкарысталі, калі іх стваралі»*

Для таго, каб знайсці выйсце з сітуацыі, трэба зірнуць на яе з іншага боку. «З іншага» — азначае «з чужога». З чужой пазіцыі, пад іншым вуглом — выбірайце, што больш пасуе. Часам мы атрымліваем правільны адказ ад тых людзей, ад якіх яго менш за ўсё чакалі. І ўсё таму, што іх ход мыслення адрозніваецца ад нашага, і яны могуць заўважыць тое, што знаходзіцца ў зоне нашай «сляпога плямы».

### 5) РЫЗЫКУЙЦЕ

*«Здаровы сэнс — гэта жмут забабонаў, атрыманых да васемнаццаці гадоў»*

Гэта зусім не азначае, што трэба кідацца ва ўсе авантуры на злом галавы. Здаровы сэнс — гэта лекі, карысныя ва ўмераных дозах. А часам ён турэмшчык для геніяльных ідэй, якія могуць крута змяніць наша жыццё да лепшага. Таму што часам нават вар'яцкія ідэі і ўчынкі аказваюцца найбольш правільнымі.

### 6) ЗАЎСЁДЫ ВЫКЛАДАЦЦА НАПОЎНІЦУ

*«Вы павінны вывучыць правілы гульні. А потым вы павінны гуляць лепш, чым хто-небудзь іншы»*

Для таго, каб дамагчыся поспеху, трэба прыкладаць усе свае намаганні. І нават дасягненне жаданага выніку ні ў якім разе не азначае, што мы можам скласці рукі і спачываць на лаўрах. Таму што, калі мы гэта зробім, рана ці позна нехта іншы сапхне нас з гэтай вяршыні. І для таго, каб пастаянна знаходзіцца на грэбні хвалі, мы павінны адточваць свае навыкі, пакуль яны не стануць дасканалымі.

### 7) ЖЫВІЦЕ МОМАНТАМ

*«Я ніколі не думаю пра будучыню — яна надыходзіць занадта хутка»*

Наяўнасць мэтаў і ўсведамленне таго, дзе вы хочаце быць фізічна, псіхічна і фінансава, з'яўляецца вельмі важным. Правільна абраная мэта, як дарожны знак, які паказвае нам, куды ісці далей, і дапамагае заставацца засяроджанымі. Аднак варта адрозніваць планы на будучыню і занепакоенасць з нагоды таго, што можа ці не можа адбыцца праз 5–10 гадоў.

### 8) СТВАРАЙЦЕ КАШТОЎНАСЦЬ

*«Імкніцеся хутчэй не да поспеху, а да каштоўнасцяў»*

Калі гаворка ідзе аб дасягненні поспеху, то ёсць два варыянты развіцця падзей: ці вы канцэнтруецеся на тым, чаго вы хочаце ад жыцця і ад навакольных, або на стварэнні таго, што зменіць жыццё іншых і павысіць каштоўнасць навакольнага свету. Вы можаце дасягнуць поспеху і ў першым выпадку, аднак у другім выпадку вы сапраўды будзеце паспяховым чалавекам, які змяніў нешта ў свеце.

### 9) ЗАСЯРОДЗЬЦЕСЯ НА ГАЛОЎНЫМ

*«Не ўсё, што лічыцца, можна падлічыць, і не ўсё, што можна падлічыць, лічыцца»*

Гэтая фраза да гэтага часу вісіць у выглядзе таблічкі ў кабінеце Эйнштэйна ў Прынстанскім універсітэце ў якасці напамінку аб тым, што сапраўды важна ў нашым жыцці. Для Альберта такіх рэчаў было ўсяго дзве — каханне і шчасце.

# ЦІ ГАТОВЫ НАШЫ ГАРАДЫ ДА АДПАЧЫНКУ

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3*

Нельга ж лічыць такім месцам лапікі гарадскога асфальта перад скверам і на пешаходнай вуліцы, якія прадпрымальныя фірмачкі і пракатныя ўстановы выкраілі для размяшчэння некалькіх арэляў, паравозіка з двума вагончыкамі, аўтапарка дзіцячых самаходных машынак і матацыклікаў, закрытых стралковых міні-ціраў… Тут усё нязручна: месцы дыслакацыі, суседства з "дарослымі" кафэ і агароднінна-садавіннымі палаткамі, а самае галоўнае, канечне, — зусім недзіцячыя кошты. 5 хвілін баўлення часу на атракцыёнах каштуюць ад 6 да 10 тысяч рублёў. А што дзіцяці гэтыя 5 хвілін забавы?! Нават і адчуць не паспее... Ну, гэта для тых, у каго такія грошы для забавы свайго дзіцяці ў кішэні ёсць. Выглядае, што ў большасці няма, бо той паравозік, калі не стаіць у чаканні пасажыраў гадзінамі, то коціцца па пешаходнай вуліцы, як правіла, напаўпусты.

Юнакам жа з дзяўчатамі застаюцца выключна дыскатэкі. Тыя, хто самастойна займаюцца сваім адпачынкам, групуюцца каля Вечнага агню на Савецкай плошчы і катаюцца на акрабатычных веласіпедах і ролікавых дошках. Спецыяльнай трасы там няма, таму моладзь выкарыстоўвае для сваіх практыкаванняў звычаныя гарадскія лесвіцы, парогі, з'езды, подыумы. Адно з улюблёных месцаў маладых людзей — пляцоўка перад фасадам абласнога драмтэатра з бронзавай скульптурай "Дама з сабачкам". Днямі скульптура "пазбавілася" парасона, які трымала ў руках тая чэхаўская Дама. Здарылася гэта выпадкова альбо спецыяльна нехта сапсаваў скульптурную кампазіцыю (ад лішку энергіі), пакуль што невядома. Аднак цяпер адміністрацыя тэатра, канечне, адсюль пагоніць моладзь. І хто ведае, куды тая падасца?..

**ІНФАРМАЦЫЮ ПРЫМАЎ
ВІКТАР ВОЙТ**






**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 17.05.12
Тыраж 299 экзэмпляраў